**БЕЛАРУСЫ Ў ЧАКАННІ**




"ЛЕКАВАЙ РЭФОРМЫ"

СТАР. 4–5

# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

**НАКОЛЬКІ СТАРАЯ**



Ў НАС АПАЗІЦЫЯ

СТАР. 6

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

28.06.12-4.07.12 г.

# НАФТАВЫ БЛЕФ

Турнэ Лукашэнкі па маршруце Гавана — Каракас — Кіта — Кіеў не абяцае Беларусі асаблівых дывідэндаў.




*Нафты ў Венесуэле шмат, дый яна не для нас*

## "МЫ НА ГОРЕ ВСЕМ БУРЖУЯМ…"

Кіраўніку Беларусі карцела выпрабаваць новы "Боінг", на якім раней лётаў Туркменбашы. Беларусбашы выправіўся за акіян да старых сяброў. Стан здароўя Фідэля Кастра, відаць, не дазваляе браць удзел нават у мерапрыемствах прадстаўнічага характару, таму Лукашэнку прымаў брат камандантэ Рауль.

З Кубы кіраўнік Беларусі выправіўся ў Венесуэлу, дзе разам з Уга Чавесаму чарговы раз прадэклараваў штосьці з серыі "мы на горе всем буржуям мировой пожар раздуем". Не засталася па-за ўвагай і заява Аляксандра Лукашэнкі, з якой вынікае, што ён разглядае ў якасці пераемніка малодшага сына Мікалая — "гадоў праз 20–25".

Што там будзе праз дзесяцігоддзі, час пакажа. А пакуль што "стратэгічнае супрацоўніцтва" Беларусі з Венесуэлай кульгае на абедзве нагі. Візітоўкай гэтага "сяброўства" стаў нафтавы праект. У 2010–2011 гадах Беларусь купляла нафту ў Венесуэле, каб прадэманстраваць сваю "энергетычную незалежнасць" і "дыверсіфікаваць" крыніцы атрымання энерганосьбітаў.

> "Цяпер жа адрасатам чынавенскага блефу з'яўляюцца ўжо грамадзяне Беларусі, якім спрабуюць навешаць локшыну на вушы, падаючы "нафтавы мост" з Венесуэлай як дальнабачнае рашэнне… Таму не трэба спакушацца, слухаючы, як Лукашэнка з Чавесам абяцаюць неверагоднуюкарысць ад новых агульных праектаў".

Абсурднасць гэтай справы была бачна адразу. Цяпер пастаўкі нафты праз акіян спынены, а ўдзельнікі гэтай "спецаперацыі" спрабуюць апраўдаць відавочнае глупства. Так, напярэдадні першы віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка сцвярджаў, што, калі б не пастаўкі з Венесуэлы, Беларусь не атрымала б такіх выгадных умоў па нафце на перамовах з Расіяй. На жаль, намеснік старшыні ўрада не падмацаваў сваю тэорыю пераканаўчымі аргументамі. Аднак можна ўявіць, што мелася на ўвазе: маўляў, Масква пабачыла, што Мінск мае альтэрнатыўны варыянт па нафце, і пайшла на ўступкі.

## УЛЮБЁНАЯ ЦАЦКА ПУЦІНА

Гэтая версія выглядае праўдападобнай толькі ў тым выпадку, калі палічыць, што расійскае кіраўніцтва няздольнае выканаць найпрасцейшыя арыфметычныя дзеянні. Бо ўсе ведалі, што нават летась, калі Лукашэнка скардзіўся на кепскія адносіны "старэйшага брата", расійская нафта каштавала для Беларусі ўдвая танней, чым венесуэльская. Таму было ясна, што прымальнай альтэрнатывай супольны праект з Чавесам не з'яўляецца.

*Заканчэнне на стар. 3*

НАВІНА

# БАБРУЙСКІ СУД АДМОВІЎ ПАЦЫФІСТУ

**На днях суд Бабруйскага раёна і горада Бабруйска адмовіў пацыфісту Алегу Яўзрэзаву ў праходжанні альтэрнатыўнай службы ў войску.**

– У судзе я абскарджваў рашэнне прызыўной камісіі, якая адмовіла мне ў праходжанні альтэрнатыўнай службы ў войску, – распавёў нам Алег Яўзрэзаў. – У ваенкамаце я патрабаваў замяніць тэрміновую службу на альтэрнатыўную, якая дазваляецца арт. 57 Канстытуцыі Беларусі. Таксама ў мяне існуюць праблемы са здароўем – пастаянна баліць сэрца. Але на медыцынскае абследаванне ваенкамат мяне не накіраваў. Прызыўная камісія праблем са здароўем у мяне не выявіла, і ў альтэрнатыўнай службе мне адмовіла. Я звярнуўся з пазовам у суд. Аднак суд, спаслаўшыся на адсутнасць адпаведнага закона, і на тое, што прызыўная камісія ўжо расфармавана, мой пазоў не задаволіў.

На жаль, галоўны закон краіны – Канстытуцыя – у нас з'яўляецца толькі дэкларатыўна галоўным. Але я буду змагацца за свае правы, і рашэнне суда ў бліжэйшыя дні абскарджу.

**ВАСІЛЬ КУЛІКОЎ**

# ДЫК ЦІ ЁСЦЬ У НАС СВАЯ ІДЭАЛОГІЯ?

Можа, мы адзіная краіна ў свеце, дзе, па вялікаму рахунку, няма дзяржаўнай ідэалогіі, якая б аб'ядноўвала нацыю.

**ВАЛЯНЦІН АКУДОВІЧ, ФІЛОСАФ:**

### "ЛУКАШЭНКА І ІДЭАЛОГІЯ – НЕСУМЯШЧАЛЬНЫЯ ПА СУТНАСЦІ".

— Лукашэнка пад словам "ідэалогія" разумее палітыку, хаця гэта абсалютна розныя рэчы, таму што палітыка ў пэўныя моманты можа мець значныя адрозненні. У залежнасці ад штодзённых палітычных патрэб. А ідэалогія з'ява канцэптуальная. Яна вызначае і кірунак, і развіццё грамадства ва ўсіх аспектах, не толькі ў палітычным. У палітычным нават у апошнюю чаргу. Ідэалогія — гэта формула будучыні дзяржавы, а палітыка — формула сённяшняга стану. Ідэалогія грунтуецца як на ментальных, так і на геапалітычных канструкцыях. Гэта маштаб, а палітыка — гэта канкрэтная патрэба. Таму Лукашэнка не жыве ідэалогіяй. Ён вельмі моцны палітык і абсалютна ніякі ідэолаг. Ён нават не разумее значэння гэтага слова, таму ўжывае яго недарэчы.

**СЯРГЕЙ ХАРЭЎСКІ, МАСТАЦТВАЗНАЎЦА:**

### "УЯВІЦЕ, ШТО ЧАВЕС НАЗВАЎСЯ "КАТАЛІЦКІМ АТЭІСТАМ".

— Канечне, ідэалогіі няма. Варта зазірнуць у тлумачальныя слоўнікі, каб пераканацца ў сэнсе гэтага слова. Нашы так званыя ідэалагічныя ўстановы кіруюцца думкамі, пачуццямі і меркаваннямі аднаго чалавека, чый светапогляд мне ўяўляецца досыць эклектычным і нетрывалым. Бо апроч маніякальнай прагі да ўлады і адчування ўласнай, Богам дадзенай бязгрэшнасці іншых думак няма. Яго ўяўленні пра свет, паколькі з'ўляюцца эклектычнымі і залежаць ад бягучага моманту, могуць мяняцца. Зразумела, што Беларусь з Венесуэлай нічым не падобныя. Калі мець на ўвазе антыамерыканскую рыторыку кіраўнікоў, то, канечне, падабенствы ёсць. Але ні памерамі, ні тым больш ідэалогіяй яны не падобныя, таму што, наколькі я ведаю ад людзей, якія там працуюць і жывуць гадамі, пэўныя заслугі ў Чавеса ёсць. Ён даў надзею сотням тысячам людзей з сацыяльнага дна. І ролю Чавеса ў гісторыі Венесуэлы будуць ацэньваць тыя, каму ён даў магчымасць атрымаць адукацыю і выбіцца ў людзі. У Беларусі ніколі не было такога дна. Прынамсі, з часоў развалу Расійскай імперыі. Не было такога бандытызму, наркакартэляў. Гэта проста непараўнальна. Узровень жабрацтва ў Венесуэле шакіруе любога чалавека з Беларусі, як і ўзровень багацця старых латыфундыстаў. Там непараўнальныя з нашымі сацыяльныя дыстанцыі. Венесуэла не ведала ні расійскай акупацыі, ні сталінскіх рэпрэсій. Там і сёння ёсць дамы, дзе стаіць мэбля 17 стагоддзя. І параўноўваць з намі проста некарэктна. Не кажучы пра тое, што зусім неверагодна, каб Чавес назваўся "каталіцкім атэістам".

**АФІЦЫЙНА**

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прызнае, што не ўсім у свеце падабаецца збліжэнне Беларусі і Венесуэлы, паколькі такое супрацоўніцтва робіць краіны больш моцнымі і незалежнымі. Такое меркаванне ён выказаў у інтэрв'ю тэлеканалу «Венесалана дэ Телевісьён», якое даў напярэдадні афіцыйнага візіту ў Венесуэлу, паведамілі БелТА ў прэс-службе кіраўніка дзяржавы.**

**«Мы з Чавесам — людзі адной ідэалогіі. Тыя, хто змагаецца супраць нас, вызнаюць іншую ідэалогію. Але тут пытанне нават не ідэалогіі. Тут пытанне эканамічнае», — лічыць Аляксандр Лукашэнка.**



*Сваё адраджэнне кожная краіна пачынала менавіта з ідэалогіі*

**АНТОН АСТАПОВІЧ, ГІСТОРЫК:**

### "СІМБІЁЗ САЎКА І ЗАХОДНЯГА РУСІЗМУ — ГЭТА НЕ ІДЭАЛОГІЯ".

— Згадаю адзін яскравы момант. Гэта адбылося напярэдадні выбараў 2010 года, калі прэзідэнт наведваў Акадэмію кіравання. Адзін са слухачоў запытаўся ў яго: "Дык якая ўсё ж такі ў нас дзяржаўная ідэалогія?". Лукашэнка не змог адказаць. Гэта сведчыць пра тое, што ў нас няма ідэалогіі. І калі папрасіць любога высокапастаўленага дзяржаўнага службоўца патлумачыць у трох сказах сутнасць нашай дзяржаўнай ідэалогіі, то ніхто, нават работнікі ідэалагічных упраўленняў і аддзелаў, не змогуць гэта зрабіць. Дзяржаўная ідэалогія ёсць усюды. Гэта стрыжань, на які "насаджваецца" ўсё астатняе.

**ВЕРАНІКА, ВЫКЛАДЧЫЦА ВНУ:**

### "НАША ЎСЁ — "ЗА ЦЫВІЛІЗАВАНЫМ СВЕТАМ НЕ ПОЙДЗЕМ".

— Самае шчырае выслоўе Лукашэнкі — "Я свой народ за цывілізаваным светам не павяду". Гэта аснова ўсіх ідэалагічных установак, якія мы маем за апошнія 18 гадоў. Калі ў цывілізаваным свеце пануе права ўласнасці, недатыкальнасці асобы, культурных каштоўнасцей, права на прыватнае жыццё, на сходы, зменнасць улады, то ў нас усё робіцца наадварот. Усе нашы праблемы, ад высечкі дубоў пад Туравам да адразання дзюбаў бакланам, — гэта ўсё працяг гэтай "ідэалогіі". Як вынік, выгадавалася пакаленне, якому ўсё "па барабане". Студэнты не ведаюць, хто ў нас прэм'ер-міністр. Я пытаюся ў студэнтаў, што выяўлена на гербе РБ? Яны пачынаюць гадаць: валошкі? кніжка? нафтавая вышка? Ім нават нецікава разгледзець герб. Вы можаце ўявіць людзей, якія са шчырай душой слухаюць дыскі беларускіх удзельнікаў "Еўрабачання"? Ці чалавека, які ў бардачку аўтамабіля трымае апошнія альбомы Смолавай і Дарафеевай? Ці таго, хто з задавальненнем кажа: "Нарэшце паглядзеў "Глыбокую плынь" або "Трэба тэрмінова спампаваць "Вам заданне"? Ці "пачытаў з такой асалодай Рубінава"?

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

# НАФТАВЫ БЛЕФ

Калі беларускія ўлады спрабавалі напалохаць Крэмль такім “нафтавым блефам”, то гэта выглядала надта наіўна. Зніжкі, якія ў выніку Мінск усё ж такі атрымаў, тлумачацца зусім іншым — яго згодай далучыцца да Еўразійскага Саюза, які цяпер мае статус улюбёнай цацкі Уладзіміра Пуціна.

Цяпержа адрасатам чынавенскага блефу з’яўляюцца ўжо грамадзяне Беларусі, якім спрабуюць навешаць локшыну на вушы, падаючы “нафтавы мост” з Венесуэлай як дальнабачнае рашэнне… Таму нетрэба спакушацца, слухаючы, як Лукашэнка з Чавесам абяцаюць неверагоднуюкарысць ад новых супольных праектаў.

Таксама можна не чакаць вялікіх прыбыткаў ад наведвання кіраўніком Беларусі Эквадора. Хаця б таму, што гэтая краіна — адна з найбяднейшых у Паўднёвай Амерыцы.

## ВАСЬМІНОГ ПАЎЛЬ УЖО ДАЎНО “СКЛЕІЎ ЛАСТЫ”

А ўжо 1 ліпеня Лукашэнка збіраецца ў Кіеў. Аднак развіццю беларуска-ўкраінскіх адносін гэтая паездка наўрад ці паспрыяе. Выглядае, што яе галоўная мэта — патрапіць на фінал чэмпіянату Еўропы па футболе. І, магчыма, падкласці свінню Ангеле Меркель. Федэральны канцлер Германіі таксама мае ў планах патрапіць на гэтую гульню — калі зборная яе краіны выйдзе ў фінал. Аднак Меркель не свеціць апынуцца ў адной VIP-ложы з Лукашэнкам,таму сярод існуючых варыянтаў ёсць і такі, калі кіраўніку ФРГ давядзецца адмовіцца ад палёту ў Кіеў, каб не сустрэцца там з “апошнім дыктатарам Еўропы”. А магчыма, здарыцца і так, што Лукашэнку давядзецца зноў наракаць на “вашывасць” украінскіх улад.

Нагадаем, што менавіта так у красавіку мінулага года Аляксандр Лукашэнка пракаментаваў сваю адсутнасць на мерапрыемствахразам з прэзідэнтамі Украіны і Расіі, якія праходзілі ва ўкраінскай сталіцы і былі прысвечаны 25-годдзю аварыі ў Чарнобылі.

Тады Лукашэнка прапанаваў задаць пытанне кіраўніцтву Украіны, чаму ён не ўдзельнічае ў чарнобыльскіх мерапрыемствах: «Задайце гэтае пытанне Януковічу: чаму беларускі прэзідэнт не прысутнічае на іх мерапрыемствах? Гэта вы ў іх спытайце. На жаль,» вашывасці»хапае ў цяперашняга кіраўніцтва Украіны».

Як цяпер будуць развівацца стасункі паміж беларускім і ўкраінскім прэзідэнтамі, сказаць вельмі няпроста. Дакладны прагноз сёння наўрад ці хто зробіць: васьміног Паўль ужо даўно “склеіў ласты”…

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# НЕ АД РАБОТЫ КОНІ… ЗНІКЛІ

Конегадоўля на Магілёўшчыне развіваецца вельмі дзіўна.

## ВЫСІЛКІ СЫШЛІ НА “ПАПЕРУ”

Цытата адказнага кіраўніка найважнейшай вытворчай галіны Магілёўшчыны намесніка старшыні камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванні Алега Маслака: “Фактычна аказалася, што праграма па развіцці конегадоўлі прынята ў нас на паперы. Увага гэтай справе ўдзяляецца на месцах па так званым рэшткавым прынцыпе, а то і наогул ігнаруецца яе выкананне. Мы сёння вымушаны кардынальна змяніць сітуацыю, менавіта таму і праводзім гэтае пасяджэнне калегіі камітэта”.

Гэтай цытаце неўзабаве споўніцца год. Самы час для таго, каб вярнуцца да пытання і паглядзець, што ж зроблена за мінулы час і ці палепшылася сітуацыя. Але не чуваць, каб камітэт па сельскай гаспадарцы і харчаванні склікаў такую калегію. Атрымліваецца, што і тут высілкі сышлі на “паперу”, а справа як была ў загоне, так і застаецца…

“Тут і цяпер”, канечне, не калегія аблвыканкамаўскага камітэта, але таксама зацікавілася гэтай праблемай. Аднак спачатку некалькі здабытых праз статыстыку лічбаў. Цяжка ўявіць, але на ўвесь Клімавіцкі раён сёння налічваецца менш чым 300 коней. Праўда, гэта як паглядзець, бо ў Хоцімскім раёне іх усяго 140 галоў, у Чэрыкаўскім — 156. Пры такой іх колькасці не на кожную вёску прыпадае хоць бы па адным коні. Чаму?!

## ДЛЯ МАЛОДЗІ ВЯСКОВАЯ ЖЫВЁЛА ЭКЗОТЫКА

Першае слова тут — уладальніку прыватнага каня на вёсцы. Вось што сказаў нам **Сямён Барысаў** з Вялікай Машчаніцы Бялыніцкага раёна:

— Ды вось і я трымаю каня апошні год. Стары ён ужо ў мяне, час яго здаць. Ён для мяне, праўда, больш сябра, чым памочнік, таму цягну з ім колькі магу… А так навокал даўно ні ў каго коней няма, не тое, што раней. Пра дзяцінства сваё ўзгадваць не буду, але яшчэ 10—15 гадоў назад конь быў распаўсюджаным утрыманцам у вясковай гаспадарцы. Там з плугам трэба прайсціся па агародзе, там — суседу дапамагчы, адвезці што, прывезці, само сабой… Пэўны ўчастак травяной пашы калгас (а потым і саўгас) заўсёды выдзяляў пад нарыхтоўку сена, мукі набудзеш сам — і зіму конь перажыве. І не так гэта дорага абыходзілася, бо вярталіся затраты праз работу каня і для сябе, і для суседзяў-аднавяскоўцаў. А цяпер на ўсю вёску ці не адзін мой конь і застаўся, бо вёска працягвае імкліва старэць. Старым людзям цяпер цяжка трымаць любую гаспадарку, вось і пазбаўляюцца яны лішніх клопатаў. Ну і як іх за гэта асуджаць, калі і сапраўды цяжкая гэта справа, а такія прадукты, як малако, смятана і мяса прыйшлі і ў вясковую краму? А гаспадарчае начальства і кіраўніцтва сельскай галіны глядзяць на змяншэнне колькасці галоў таксама спакойна і ніякіх мер, каб гэта ўратаваць, не прапаноўваюць і не прымаюць, бо таксама адным клопатам менш. Развітой вытворчасці перапрацоўкі каніны ў шырокім сэнсе слова няма, прапаноў па выкарыстанні коней, што магло б даць работу і іншым цэхам на вёсцы, для турызму і вольнага часу, таксама няма. Што ж тычыцца маладых людзей, то іх на вёсцы практычна не засталося, а тыя, што ёсць, вясковую экзотыку — коней-кароў-авечак — не ўспрымаюць. У іх матацыклы, аўто, а то і трактары ў асабістым карыстанні. Таму, здаецца мне, век коней на вёсцы мінае, як гэта ні шкада…



*Конегадоўля – забытае рамяства*

## ВЫГАДНАЯ ТОЛЬКІ КАРОВА

А зараз слова спецыялісту, эканамісту сельскай гаспадаркі **Пятру Мігурскаму**:

— Конь сыходзіць з сельскагаспадарчага жыцця заканамерна. Сёння ўтрыманне каня ў прыватнай гаспадарцы вельмі нятанная рэч. За зіму, як кажуць на вёсцы, конь з’ядае каня.

*Заканчэнне на стар. 8*

# ЯК ПАЧУВАЮЦЦА БЕЛАРУСЫ Ў

**1 ліпеня ў Беларусі пачне дзейнічаць новы парадак водпуску лекавых сродкаў. Большасць антыбіётыкаў, інсулін і гармальныя кантрацэптывы (усяго 1985 найменняў прэпаратаў, або 38% ад усіх зарэгістраваных у Беларусі лекаў) без рэцэпта цяпер не набудзеш.**

Без "пісьмовага дазволу" ўрача па-ранейшаму будуць адпускацца 3279 найменняў прэпаратаў, якія ўвайшлі ў новы пералік безрэцэптурных сродкаў, зацверджаны Міністэрствам аховы здароўя на пачатку чэрвеня бягучага года. "Ва ўстановах аховы здароўя Мінска ажыятажу ў сувязі з увядзеннем рэцэптурнага водпуску лекаў не чакаецца", — сцвярджаў днямі старшыня камітэта па ахове здароўя Мінгарвыканкама **Віктар Сірэнка**.

Як насамрэч ідуць справы ў паліклініках і аптэках сталіцы за некалькі дзён да "гадзіны Х", высвятляла **"Тут і цяпер"**.




*Пакуль ніхто дакладна не можа сказаць, што стане з нашымі аптэкамі*

## З ГІСТОРЫІ ПЫТАННЯ

Ідэя абмежаваць свабодны продаж лекаў (пра наркатычныя рэчывы не згадваем, і так зразумела) далёка не новая. Яшчэ ў часы СССР вам за проста так не прадалі б, напрыклад, пенталгін, кадэінязмяшчальныя прэпараты супраць кашлю і нават каплі ў нос. Афіцыйна ў нашай былой агульнай краіне без рэцэпта прадаваліся ўсяго 309 прэпаратаў: іх спіс быў зацверджаны загадам Міністэрства аховы здароўя СССР № 673. Зрэшты, у СССР і алкаголь падлеткам не прадавалі, а ў нас "рэцэпты" на яго ўсё ніяк не дзейнічаюць, так што пакінем настальгію ўбаку і пяройдзем бліжэй да справы.

Закон аб лекавых сродках, прыняты ў суверэннай Беларусі ў 2006 годзе, гэтую практыку прадоўжыў. Глядзім арт. 21: "пералік лекавых сродкаў, што рэалізуюцца без рэцэпта ўрача, зацвярджаецца Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь". Прычым складаліся ўсе гэтыя спісы, у чым можа пераканацца любы жадаючы, не згодна з дэмакратычным прынцыпам "што не забаронена, то дазволена", а роўна наадварот. Медыкі не стамляюцца тлумачыць, што зроблена гэта ў інтарэсах саміх пацыентаў, з чым цяжка спрачацца: шматгадовая схільнасць нашага чалавека да самалячэння ўжо і ў мастацтве апета (узгадайма хоць "Белыя Росы"), і ў анекдоты ўвайшла, і, на жаль, у крымінальную хроніку…

**...А пацыенты тым часам не вераць у празрыстасць рэцэптурнай схемы водпуску лекаў.**

## ДА ВЕДАМА

Без рэцэпта будуць адпускацца лекі, якія выкарыстоўваюцца для лячэння найбольш распаўсюджаных хвароб страваўвальнага тракту і печані (алмагель, гастал, мезім, панкрэацін, фестал, эсэнцыяльныя прэпараты і інш), сардэчна-сасудзістых захворванняў (атаналол, валідол, эналапрыл і інш.) У безрэцэптурным спісе абязбольвальныя, супрацьзапаленчыя, супрацьрэўматычныя сродкі; прэпараты, якія прымяняюцца пры захворваннях касцёва-мышачнай сістэмы (аспірын, дыклафенак, німесулід, парацэтамол, тэрафлекс і інш), а таксама асобныя антыбіётыкі, супрацьвірусныя, процімікробныя, імунамадулюючыя і іншыя прэпараты (ампіцылін, арпетол, ацыклавір, грапрынасін, даксіцыклін, асельтамівір, эрытраміцін і інш.)

Толькі па рэцэптах у аптэках будуць адпускаць псіхатропныя рэчывы, сродкі, якія прымяняюцца для лячэння эпілепсіі, псіхалагічнай або фізічнай залежнасці ад розных рэчываў, антыбіётыкі 3 і 4 пакаленняў, інсуліны, гармоны, анаболікі, антыарытмічныя сродкі, лекавыя прэпараты для лячэння анкалагічных захворванняў.

## РАЗГРУЗІЦЬ УРАЧОЎ І "ЗАГРУЗІЦЬ" ХВОРЫХ?

То чаму ж гэты цалкам лагічны крок выклікаў такую напружанасць у беларускім грамадстве? Цягам некалькіх месяцаў горача абмяркоўваліся магчымае падаўжэнне ў разы чэргаў да тэрапеўтаў, ажыятаж у аптэках і нават павелічэнне колькасці абортаў з-за рэцэптурнага водпуску кантрацэптываў. Тэму апошніх, дарэчы, закрануў нават Аляксандр Лукашэнка ў штогадовым пасланні беларускаму народу і парламенту.

На заўвагі, трэба адзначыць, чыноўнікі ад медыцыны адрэагавалі досыць аператыўна. Так, камітэт па ахове здароўя Мінгарвыканкама яшчэ ў красавіку бягучага года прыняў пастанову, згодна з якой права выпісваць рэцэпты атрымалі не толькі ўрачы — спецыялісты паліклінік, але і ўрачы стацыянараў (пры выпісцы пацыента з бальніцы), а таксама ўрачы прыёмных аддзяленняў бальніц (пры адмаўленні ад шпіталізацыі) і работнікі станцыі хуткай дапамогі — у перыяд эпідэмій ВРВІ.

У многіх сталічных паліклініках для таго, каб "разгрузіць" участковых тэрапеўтаў, адкрылася па 3-4 адмысловыя кабінеты для выпіскі рэцэптаў старшымі медсёстрамі. Аднак пра тое, наколькі рэальна дапаможа гэтая мера ўрачам і хворым, гаварыць рана, а з улікам хранічнага недахопу ўрачоў і медсёстраў у паліклініках — і наогул складана.

*"Не магу сказаць, каб нагрузка павялічылася, але і не паменшылася,* — адзначыла ў прыватнай размове знаёмая ўрач-тэрапеўт. — *Большасць пацыентаў па звычцы ідуць да нас: адным трэба не столькі выпісаць новы рэцэпт, колькі падзяліцца сваімі балячкамі; другія просяць назначыць іншыя прэпараты, бо ранейшыя не дапамагаюць або занадта дарагія".*

Затое ў інфармацыйным плане паліклінікі падрыхтаваліся на ўсе сто працэнтаў: упакаваны бланкамі рэцэптаў і даведачнай інфармацыяй. У тых, хто крочыць у нагу з часам, тэкст пастановы Міністэрства аховы здароўя і спісы рэцэптурных/безрэцэптурных лекаў змешчаны на сайтах, у астатніх — на стэндах каля рэгістратуры, сярод мноства іншых "інфармацый" і "памятак" пацыентам. Тое ж тычыцца і аптэк. У апошніх, дарэчы, на першы погляд, чэргаў не назіраецца — у цэнтры горада каля аптэчнага акенца

# ЧАКАННІ "ЛЕКАВАЙ РЭФОРМЫ"?

стаяць максімум 5–7 чалавек, у "спальніках" — 1–5.

Толькі ў адной з пяці мінскіх аптэк, куды выбарачна патэлефанавала карэспандэнт "Тут і цяпер", адзначылі павышэнне попыту на пэўныя лекі: *"У нас больш актыўна пачалі набываць антыгістамінныя, супрацьвірусныя прэпараты, антыбактэрыяльныя, сардэчныя. Некаторыя для таго, каб набыць рэцэптурныя сродкі, выкарыстоўваюць добра вядомы прыём — маўляў, рэцэпт ёсць, але забыліся дома, або дыктуюць цэлы спіс, у якім сярод дзясятка найменняў ёсць і адзін-два рэцэптурныя прэпараты. Мы з такімі пакупнікамі працуем уважліва, каб і не пакрыўдзіць чалавека (а мо і праўда рэцэпт забыў), і растлумачыць яму небяспеку самалячэння"*.

Праўда, правізары асабліва не расказваюць пра тое, што з 8 чэрвеня продаж лекаў абмежаваны: у адны рукі без рэцэпта адпускаецца не больш як 50 доз таблетак, пасцілак, капсул і дражэ, і не больш як 2 упакоўкі мазей або сіропаў.

## "ЧХАЦЬ Я ХАЦЕЛА НА ТАКУЮ "БЮДЖЭТНУЮ" МЕДЫЦЫНУ"

А пацыенты тым часам не вераць у празрыстасць рэцэптурнай схемы водпуску лекаў. *"З пачатку года я некалькі разоў хварэла на ВРВІ і звярталася да ўрачоў,* — дзеліцца мінчанка **Наталля Жукоўская**. — *Кожны раз яны не замарочваліся з рэцэптамі і выпісвалі на паперцы назвы ВЫКЛЮЧНА беларускіх лекаў. Я і набывала іх, як дурніца, і безвынікова піла. Праз некалькі месяцаў не вытрымала, схадзіла ў камерцыйны медцэнтр, дзе мне прапісалі абсалютна іншыя лекі, практычна ўсе імпартныя. Я патраціла амаль тую ж суму, што раней аддала за беларускія лекі, але затое атрымала вынік — горла не пяршыць, з носа не цячэ, адчуваю сябе здаровай і чхаць хацела на такую "бюджэтную" медыцыну, калі прапісваецца тое, што загадана ўрачам, а не тое, што дапаможа пацыенту"*.

## ЗМАГАЦЦА З ІНШАЗЕМНЫМІ ЛЕКАМІ — ГЭТА ПРАВІЛЬНА

Пенсіянерка **Людміла Шчурко**, наадварот, перажывае, што ўрачы схільны выпісваць у асноўным імпартныя лекі, непад'ёмныя для кішэні пажылой жанчыны: *"Колькі разоў назірала карціну: пакуль чакаеш прыёму, у кабінет "праслізвае" энергічная дзяўчынка або хлопец з партфельчыкам — "перадаць урачу сёе-тое", а потым заходзіш, а ва ўрача на стале плакацікі, блакноцікі з назвамі дарагіх лекаў, якія табе потым і назначаюць"*.

**Чым актыўней функцыянеры запэўніваюць, што ўсё ў іх прадумана і адладжана, тым большую трывогу адчуваюць людзі.**

## ТОЛЬКІ "ЖЭСТАЧАЙШЭ"!

*"А мяне пастанова міністэрства дык толькі радуе,* — прызнаецца прадпрымальнік з медыцынскім дыпламам **Ігар Мілашэўскі**. — *Бо ў нас жа як заведзена: кожная бабка (дзядок) лепш за прафесара медыцыны ведае, якая дакладна таблетачка ёй дапамагае, і мала таго, што сама п'е бескантрольна пры першых сімптомах пэўнай хваробы, дык яшчэ і раіць суседзям і дзецям. А ў аптэках яна заўсёды просіць "штосьці ад галавы" ці "ад пячонкі". Навошта дакладны дыягназ, урачэбныя рэкамендацыі, што вы?! І часта ж прадаюць! Я б са спісам лекаў і спіс аптэк "пачысціў" бы, каб закрылі ўсе тыя, якія дазваляюць сабе такія парушэнні"*.

Многія бачаць у змяненні сістэмы водпуску лекаў менавіта "аптэчны след" і шукаюць, каму гэта можа быць выгадна. Напрыклад, вялікім аптэчным сеткам у памкненні задушыць дробных канкурэнтаў і навярстаць недаатрыманы прыбытак (мінулай восенню і вясной чаканай эпідэміі грыпу не было, адпаведна, мноства супрацьвірусных прэпаратаў, гарачкапаніжальных і антыбіётыкаў засталіся нерэалізаванымі). Ці не ў адкрытую гучыць імя, напрыклад, Сяргея Шакуціна — зводнага брата ўладальніка холдынга "Амкадор" і сеткі аптэк "Іскамед", цесна звязанай з афіцыйнай "Белфармацыяй"… Але, як кажуць, за руку ніхто нікога не злавіў, таму размовы застаюцца размовамі, аднак насцярожанасць пацыентаў не змяншаецца. І, як прызнаюць спецыялісты, яна не знікне 1, 2 і нават 30 ліпеня. Аб'ектыўна ацаніць эфектыўнасць добра забытай старой сістэмы можна будзе самае меншае праз паўгода.




Карацей кажучы, на паперы ўсё выглядала выдатна, а на справе атрымліваецца, як заўсёды. Уладальнікі прыватных аптэк перажываюць, што іх закрыюць, пацыенты — што давядзецца хварэць у чэргах да ўрачоў, урачы — што нагрузка на іх, насуперак абяцанням, толькі павялічыцца. І чым актыўней функцыянеры запэўніваюць, што ўсё ў іх прадумана і адладжана, тым большую трывогу адчуваюць абывацелі. Чым жа сэрца і розум супакоіць, калі антыдэпрэсанты цяпер па рэцэпце, а настойка глогу і гарэлка на бярозавых пупышках — без?

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**

### А ЯК У ІХ?

У Фінляндыі ў свабодным продажу лекі ад галаўнога болю, гарачкапаніжальныя, ад боляў у страўніку, лекі ад прастуды. Але пераважная большасць лекаў прадаецца па індывідуальных рэцэптах.

У Францыі лекі, што адпускаюцца па рэцэпце, умоўна бясплатныя: іх кошт уваходзіць у абавязковую для кожнага грамадзяніна страхоўку.

У ЗША пэўны час назад быў забаронены для свабоднага продажу пеніцылін — з-за масавага ўжывання там, дзе трэба і не трэба. Таблеткі проста перасталі дапамагаць. Праз 8 год гэтая забарона была знята.

З 1 чэрвеня бягучага года ў РФ толькі па рэцэпце прадаюцца лекі з утрыманнем кадэіну. Дарэчы, летась галоўны нарколаг Расіі Яўген Брун прапаноўваў прадаваць па рэцэпце УСЕ лекі ўвогуле http://www.imapress.spb.ru/health/health_5356.html, але гэтая прапанова пакуль што не прайшла.

# НАКОЛЬКІ СТАРАЯ Ў НАС АПАЗІЦЫЯ

Днямі старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына назвала беларускую апазіцыю старой і заявіла, што “тыя, хто знаходзіцца зараз у вярхах апазіцыі”, няздольны ўзяць на сябе адказнасць.

Асобныя лідары ўзначальваюць палітычная партыі шмат гадоў.

Сеткавая газета **“Тут і цяпер”** высветліла, што думаюць на гэты конт некаторыя аксакалы ад палітыкі.



*Вялікае пытанне, ці здолее цяперашняя апазіцыя перамагчы*

## ІНІЦЫЯТЫЎНЫЯ ПЕНСІЯНЕРЫ

Палітык з багатай біяграфіяй **Віктар Івашкевіч** наогул не ўспрымае размовы пра тое, што камусьці ў апазіцыі не даюць ходу па кар’ернай лесвіцы.

— На сённяшні дзень я не з’яўляюся партыйным лідарам, не ўваходжу ў ніякія соймы, “шасцёркі” і “сямёркі”, — выказвае свае думкі палітык. — Але калі ў мне ёсць што сказаць, то гавару, праяўляю ініцыятыву і дзейнічаю. Меў волю і жаданне — стаў адным з арганізатараў Дня волі. Тое ж самае можа зрабіць любы малады чалавек. Спадарыню Насту Палажанку, якая з’яўляецца намесніцай старшыні зарэгістраванага ў Чэхіі “Маладога фронту”, у свой час ніхто не прапіхваў наверх — ёй было цікава, і яна дасягнула ўсяго самастойна. І Павел Вінаградаў, і іншыя. Яны перш за ўсё нераўнадушныя, ініцыятыўныя людзі. Ёсць, дарэчы, маладыя людзі з псіхалогіяй пенсіянераў, для каго галоўнае — не нарабіць памылак, дзейнічаць выверана і асцярожна. А ёсць людзі, якія дзейнічаюць з пазіцыі “калі не я, дык хто?”. Яны могуць быць і сярэдняга, і пенсіённага ўзросту.

## АПАЗІЦЫЯ — ГЭТА ХТО?

Яшчэ пытанне, каго лічыць апазіцыяй. Толькі тых, хто з’яўляецца сябрам палітычнай партыі?

— НІСЭПД, зарэгістраваны ў Вільні, нядаўна праводзіў даследаванні і пытаўся ў беларусаў аб тым, ці лічаць яны сябе ў апазіцыі да існуючай улады, — працягвае размову Івашкевіч. — І згодна з вынікамі, каля 20 працэнтаў апытаных лічаць сябе апазіцыянерамі. Калі гэтыя вынікі пакласці на ўсю Беларусь, то атрымліваецца больш за 1 мільён чалавек. Калі мы маем на ўвазе такую апазіцыю, то яна павінна прадуцыраваць актыўнасць.

Ёсць іншы падыход: апазіцыя — гэта толькі зарэгістраваныя партыі. Але гранты, якія яны атрымліваюць, зусім не тычацца тых 20 працэнтаў, пра якія гаворыць НІСЭПД, бо кагосьці цікавіць будучыня краіны, а кагосьці — ці будуць грошы на арэнду офіса. Ну дык вось, наяўнасць пячатак і рэгістрацыі большасць людзей і тых, хто лічыць сябе апазіцыяй, але не ўваходзіць у склад партыё, не цікавіць.

Я думаю, трэба пазбаўляцца гэтых стэрэатыпаў. На мой погляд, сапраўдная апазіцыя — гэта тыя 20 працэнтаў, пра якія сведчыць НІСЭПД. А некалькі партый… Здараецца, што на першыя пазіцыі выходзяць інтарэсы перш за ўсё карпаратыўныя, а не грамадскія. Нам трэба адмаўляцца ад вызначэння манаполіі на паняцце “апазіцыя” некалькіх дзясяткаў партыйных лідараў, якія, між іншым, вельмі часта паводзяць сябе не як апазіцыя...

## ЗА СУМЛЕННЫЯ ВЫБАРЫ!

**Анатоль Лябедзька** кіруе Аб’яднанай грамадзянскай партыяй ужо 12 гадоў і цалкам згодны са спадарыняй Ярмошынай.

— Ну тое, што старэе, яна, безумоўна, мае рацыю, — гаворыць Анатоль Уладзіміравіч. — Адна з нямногіх сітуацый, калі я пагаджаюся са спадарыняй Ярмошынай. А што тычыцца змены кіраўнікоў, то ў нас кожныя два гады так ці інакш адбываецца ратацыя. Што да нашай партыі, то ў нас змяніліся тры абласныя кіраўнікі, на адсоткаў 30 памяняліся раённыя і гарадскія, да таго ж у партыі тры новыя намеснікі старшыні партыі. І добра, калі б такая ратацыя кадраў адбывалася і на ўзроўні дзяржавы.

**— А вы самі ўжо колькі кіруеце партыяй?**

— З 2000 года, але кожныя два гады (і спадарыня Ярмошына павінна гэта ведаць) у нас адбываецца дэмакратычная працэдура выбараў. Гэта азначае, што кожны з 3600 партыйцаў можа вылучыць на пасаду старшыні партыі ці сябе, ці нейкую альтэрнатыву. І ўсё будзе падлічана так, як мае быць, — голас да голаса.

Калі б у нашай краіне адбываліся сапраўдныя выбары, то мы змагаліся б за месцы ў Палаце прадстаўнікоў са сваёй антыкрызіснай праграмай “Мільён працоўных месцаў”. І калі б людзі нас не падтрымалі, то заўтра Анатоль Лябедзька ці яго намеснікі займаліся б іншай справай: пайшлі б працаўладкоўвацца адвакатамі або бізнесам заняліся б.

Чаго нам не хапае, дык гэта крытэрыяў ацэнкі дзейнасці. А крытэрый у палітыцы можа быць толькі праз давер і падтрымку выбаршчыкаў.

**МАРЫНА МІТ**

## ЦЫТАТНІК

**Дарэчы, не выключана, што Лідзія Ярмошына проста ў больш мяккай форме паўтарае словы Лукашэнкі, сказаныя ім на прэс-канферэнцыі для расійскіх журналістаў.**

*“У нас у Беларусі няма апазіцыі, а ёсць пятая калона, таму што яна фінансуецца Захадам,* — цытавалі восенню мінулага года Лукашэнку інфармацыйныя агенцтвы. — *Цяпер Захад спрабуе змяніць лідараў нашай апазіцыі: аднаму — 50 тысяч долараў, другому — 70 тысяч. Адкупныя, толькі сыдзі. На Захадзе разумеюць, што гэтыя лідары тут ужо нічога не зробяць”.*

*“Мне падаецца, што калі б Захад сапраўды аплачваў дзейнасць апазіцыі, ды яшчэ такія сумы прапаноўваў за сыход, то ў партыях было б больш новых твараў,* — выказвае сваё меркаванне прадпрымальнік Анатоль Марозаў, палітолаг па адукацыі. — *Разумееце, павінны быць канкрэтныя прыклады, доказы ў рэшце рэшт, але іх няма. Таму гэтым словам асабіста я не давяраю і лічу, што апазіцыя, нават тая, якая ёсць, робіць усё магчымае для таго, каб данесці да людзей альтэрнатыўную думку. А тым, каму падаецца, што апазіцыянеры — гультаі і жывуць на заходнія падачкі, я настойліва раю ўступіць, напрыклад, у Аб’яднаную грамадзянскую партыю і самім пакаштаваць гэты хлеб...*

*Ведаеце, ёсць такі добры выраз: не падабаецца так — зрабі сам. Вось няхай крытыканы створаць для пачатку партыю, зарэгіструюць яе, некалькі гадоў папрацуюць, а потым будзем размаўляць...”.*

Напярэдадні «Дажынак-2012» уласнікам прыватных дамоў па вуліцы Савецкай Горак ненадакучліва прапаноўваюць рамантаваць іх... за свой кошт.

# «ДАЖЫНКІ» АПРАЎДВАЮЦЬ УСЁ?

## ГАВАРЫЛІ АДНО, А...

У той жа час тры гады назад ім казалі, што гэтыя домаўладанні знясуць, а ўзамен дадуць новае жыллё.

Вось што кажа Вера Сяргееўна, гаспадыня аднаго з дамоў па вуліцы Савецкай:

— Тры гады таму, вясной 2009-га, я якраз збіралася рабіць рамонт дома, які перайшоў да мяне ў спадчыну ад бацькоў. Планавала перакрыць дах новым шыферам, балазе, месячнай зарплаты ў той час у мяне хапала на тое, каб купіць адразу ўвесь неабходны дахавы матэрыял. І на жыццё яшчэ заставалася. Ды і надворныя пабудовы мы адрамантавалі, планавалі сёе-тое падфарбаваць, агароджу паправіць. Але...

> "Ды і нельга ж так з людзьмі абыходзіцца: спачатку адно казалі (і не толькі казалі, пацвярджалі паперамі), а потым — іншае, абсалютна супрацьлеглае. Мы сталі ізгоямі: нармальны рамонт нам не далі зрабіць з гэтым зносам, жылля новага няма".

У снежні таго ж года мяне тэрмінова выклікалі ў райвыканкам да Аляксандра Сяргеевіча Галавача, тагачаснага начальніка аддзела ЖКГ. Там мне паказалі спіс дамоў па нашай вуліцы, што планаваліся пад знос у першую чаргу. Гэта былі дамы, размешчаныя па дарозе ад дзіцячага сада № 5 да павароту на паліклініку. Я бачыла ў райвыканкаме генплан: у ім на месцы нашых дамоў пазначаны шматкватэрны дом. Нам сказалі, што летам наступнага года нашы дамы абавязкова пойдуць пад знос, магчыма, нават ураджай з агародаў сабраць не паспеем. Але, як гаворыцца ў старой народнай прымаўцы, "з'язджаць сабраўся, а жыта сей", і я засеяла свой участак, як звычайна. Некаторыя мае суседзі проста махнулі рукой — пад знос дык пад знос — і не сталі апрацоўваць зямлю. Зараз, натуральна, агароды зараслі, і акультурыць іх будзе вельмі складана.




Мы перасталі думаць пра новы дах, не сталі дабудоўваць лазню, ды і фарбу, падрыхтаваную для рамонту, вырашылі выкарыстаць у новай кватэры. Некаторыя суседзі сталі сёе-тое прадаваць з маёмасці, што ў кватэры не спатрэбіцца. Потым, здаецца, усё суцішылася.

## А ДАВЕДАЛІСЯ В ЫПАДКОВА

— Размовы аб зносе спыніліся, — працягвае Вера Сяргееўна, — і лета 2010 года мы пражылі на старым месцы. Але раптам у верасні мы атрымалі паперу, у якой зноў паведамлялася аб зносе і прапаноўвалася кватэра ў раёне вуліцы Будаўнікоў. Мы вельмі хваляваліся, што з цэнтра нам прапаноўваюць перабрацца ў такі далёкі раён. Тут усё пабач, усё звыкла, да паліклінікі рукой падаць, а нам, людзям немаладым, гэта вельмі важна. Але мы грамадзяне законапаслухмяныя — раз трэба, значыць, так таму і быць. Сталі рыхтавацца да перасялення. Праз некаторы час нам сказалі, што жыць мы будзем на вуліцы Вакзальнай. Ну, хай так, Вакзальная дык Вакзальная. Мы гатовы. У райвыканкаме сказалі напісаць заяву пра тое, што мы згодны на прапанаваную кватэру па вуліцы Вакзальнай, і папрасілі засведчыць яе ў натарыуса. Гэта было зроблена. І зноў усё заціхла.

Гэтай вясной жыхары дамоў па вуліцы Савецкай даведаліся з газеты "Горацкі веснік», што знос іх дамоў адменены. Прычым, як сцвярджае Вера Сяргееўна, даведаліся цалкам выпадкова.

— Суседка прачытала і здзівіла ўсіх нас гэтай інфармацыяй, — кажа яна. — З райвыканкама ніякай афіцыйнай паперы аб тым, што зносу не будзе, нікому не дасылалі. Мы пацікавіліся самі і даведаліся, што знос нашых дамоў сапраўды не плануецца.

А цяпер чыноўнікі патрабуюць ад мяне, каб я ў тыя пару месяцаў, што засталіся да «Дажынак», зрабіла рамонт свайго дома: перакрыла дах, усё пафарбавала і паправіла. Да мяне прыходзілі два разы, да некаторых суседзяў часцей ходзяць. І патрабуюць, патрабуюць, патрабуюць. Вельмі настойліва. Штрафамі пагражаюць. А што я зараз магу зрабіць? У мяне зараз і сродкаў на такі рамонт няма. І ўзяць няма дзе. Ды калі б і былі, то я проста не паспяваю.

Ды і нельга ж так з людзьмі абыходзіцца: спачатку адно казалі (і не толькі казалі, пацвярджалі паперамі), а потым — іншае, абсалютна супрацьлеглае. Мы сталі ізгоямі: нармальны рамонт нам не далі зрабіць з гэтым зносам, жылля новага няма.

На сённяшні дзень больш за ўсё засмучае тое, што мы як гаспадары дамоў, якія ідуць пад знос, засталіся без газу (хоць магчымасць правесці яго была) і вады ў дамах. Нават калі цяпер гэтым заняцца, то не здужаем матэрыяльна. Бо пару гадоў назад, самі ведаеце, і цэны былі іншыя, і наша пакупніцкая здольнасць надта адрознівалася ў лепшы бок. Мне паўгода да пенсіі засталося, ну які тут газ? Хіба ж не крыўдна!?

## ПАЗІЦЫЯ РАЙВЫКАНКАМА ЗРАЗУМЕЛАЯ

Мы звярнуліся ў Горацкі райвыканкам да выконваючай абавязкі начальніка аддзела ЖКГ Наталлі Недасека з просьбай растлумачыць сітуацыю, якая склалася. Яна распавяла, што ў пачатку бягучага года было прынята афіцыйнае рашэнне аб змене месца правядзення фестывалю "Дажынкі". З плошчы Леніна святкаванне перанеслі ў амфітэатр, які будуецца на тэрыторыі БДСГА. І ў сувязі з гэтым прыватныя дамы па вуліцы Савецкай вырашылі не зносіць. Інфармацыя пра гэта была надрукавана ў раённай газеце.

Калі б «Дажынкі» святкавалі на цэнтральнай плошчы горада, як гэта планавалася першапачаткова, то тады частка дамоў па вуліцы Савецкай сапраўды пайшла б пад знос.

Пазіцыя райвыканкама зразумелая, хоць вельмі крыўдна, што лёсы людзей у нашай краіне вырашаюцца адным росчыркам пяра аднаго ці некалькіх чыноўнікаў. Але што цяпер рабіць тым людзям, якія рыхтаваліся да зносу? Ад іх жа яшчэ і рамонт цяпер патрабуюць! Тэрмінова. За свой кошт.

**ГАЛІНА БУДНАЯ**

# НЕ АД РАБОТЫ КОНІ… ЗНІКЛІ

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 3*

А паслугі, якія можна ўзяць з каня, сёння запатрабаваны не вельмі ахвотна. Раней без каня на вёсцы было цяжка, цяпер — не. Тут справа ў тым, што рэзка паменшыўся і памер прысядзібных участкаў, якія выкарыстоўваюцца для вытворчасці прадуктаў харчавання. Прыватная гаспадарка задавальняе сямейныя патрэбы праз сад і агарод, а дачнікі ўвогуле ўсё часцей карыстаюцца дачамі ў так званых рэкрацыйных мэтах — для ўзнайлення сіл і здароўя. Раней уладальнік каня зарабляў за сезон мо і 1000 долараў, а сёння самае большае, чаго можна дасягнуць, — долараў 200—250. Расцэнкі за апрацоўку зямлі як быццам і немалыя — 5-7 тысяч рублёў (амаль што адзін долар) за "сотку". Што тут заробіш? А спробы падняць расцэнкі прывялі да таго, што вяскоўцы пачалі акучваць бульбу ўручную, капанічкамі. І якасць нармальная, калі старацца (сваё ж!), і эканомія ў пару соцень тысяч рублёў нялішняя для сямейнага вясковага бюджэту. Аднак развіццё конегадоўлі стрымлівае палітыка дзяржаўных закупачных цэн. Яны (што, магчыма, і правільна ў нашых шыротах) меншыя за цэны на ялавічыну і свініну. Ну а кошты дыктуе, як хочацца верыць, рынак. Таму калі я бачу абвестку "куплю каніну дорага", то разумею, што насамрэч на гэтым хоча зарабіць перакупшчык, а ўладальніку той каніны і яе спажыўцу спадзявацца на гэта не выпадае. Каня трэба гадаваць пад продаж не менш як 2-3 гады, не тое што бычка за 18 месяцаў. Атрымліваецца, што нават калі за каня селянін зможа ўзяць і 8, а то і 10 млн рублёў, усё роўна нявыгадна. У грамадскім гаспадаранні і вытворчасці паслугі коней штогод становяцца таксама ўсё менш запатрабаваны. Шырока яны выкарыстоўваюцца, бадай, толькі на аб'ездзе зборшчыкаў малака па вясковых дварах. Такім чынам, выгаднай жывёлінай у прыватнай вясковай гаспадарцы застаецца карова… Толькі вось і іх тут становіцца ўсё менш. Але гэта ўжо тэма іншай гаворкі.

**ВІКТАР ВОЙТ**

**Свобода слова-привилегия для вещей, но не для людей!**

Это безобразие!

Мы должны с этим что-то делать!

Так больше продолжаться не может!







**Когда не делаете ничего плохого, не страшна свобода слова!**





**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 28.06.12
Тыраж 299 экзэмпляраў